

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№9 (318) ЧЭРВЕНЬ 2022 ГОД


АДУКАЦЫЯ

## ЗАЛАТАЯ МОЛАДЗЬ ШУМІЛІНШЧЫНЫ-2022

**Сёлета ў нашым раёне выпускнікі школ атрымалі шэсць залатых медалёў.**



Увогуле установы агульнай сярэдняй адукацыі Шумілінскага раёна ў 2022 годзе заканчваюць 74 выпускніка 11 классаў і 173 выпускніка 9 класаў. Сярод іх трое медалістаў: Дзецкіна Аліна, Кузняцоў Яўген і Шкляр Аксана – заканчваюць сярэднюю школу №1 імя Героя Савецкага Саюза П. А. Акуцыёнка г. п. Шуміліна, дзвюх медалістак: Барысевіч Аляксандру і Кавалеўскую Ксенію – выпускае Кардонская сярэдняя школа, аднаго: Перамотава Ігара – Обальская сярэдняя школа імя Героя Савецкага Саюза З. М. Партновай.

Заканчэнне школы – гэта важны рубеж у жыцці кожнага чалавека. Наперадзе адказны час, калі кожнаму трэба абраць прафесію, вызначыць свой далейшы лёс. Хочацца верыць, што кожны з іх здзейсніць важныя жыццёвыя і творчыя адкрыцці, а вашы поспехі будуць асновай развіцця нашай роднай рэспублікі.

Безумоўна, будучыня нашых дзяцей залежыць ад асноў, якія закладваюцца ў сям'і і школе. Вялікае дзякуй кажуць бацькі шумілінскіх выпускнікоў за прафесіяналізм, творчую працу, адданасць прафесіі і вялікую любоў да дзяцей.

Радасць адкрыццяў, горыч памылак, шчасце і дружба, першае каханне – усё пераэжыта бацькоўскімі сэрцамі. Як бы ні склаўся лёс дзяцей, дзе бы яны не апынуліся, для кожнага з іх бацькоўскі дом застанецца пачаткам пачаткаў.

Пажадаем усім выпускнікам жадаю шчаслівай дарогі ў новае дарослае жыццё.

**Алесь Прыбярэжны**

ГОД ГІСТАРЫЧНАЙ ПАМЯЦІ

## КОЖНАЯ ДАТА — КАВАЛАЧАК ГІСТОРЫІ

**Прапануем Вам падборку знакавых датаў на тыдзень. Ёсць за што парадавацца, па чым пасумаваць, пра што задумацца. Кожная дата — кавалачак гісторыі, карысны не толькі як артэфакт мінулага, але і «пасланне ў бутэльцы» для нас сённяшніх. Чытайце, думайце, рабіце высновы.**

**28 чэрвеня**

**1942. Загінуў Янка Купала**

Класік беларускай літаратуры прыехаў у Маскву ды пасяліўся ў аднайменнай гасцініцы за дзесяць дзён да гэтага.

Паводле сведчанняў сучаснікаў, пачуваўся ён у той час не самым лепшым чынам. Выглядаў значна старэй за свае гады, меў праблемы са здароўем. Вайна, якая вымусіла Купалу пакінуць родны край, таксама зрабіла сваю справу.

Па ўсім відаць, ён цяжка пераносіў эвакуацыю пад Казанню, дзе жыў разам з жонкай з восені 1941 года. Беларускага жыцця там не было, знаёмыя і сябры былі хіба што наездамі, ратавала адно перапіска.

Да канца так і не вядома, што ж насамрэч адбылося ў той ракавы дзень. Забойства? Самагубства? Як так атрымалася, што паэт упаў у лесвічны пралёт? Гісторыкі і неабыякавыя да беларускай літаратуры дагэтуль гадаюць, прапаноўваючы свае версіі.

**29 чэрвеня**

**1940. Дэпартацыя з Заходняй Беларусі**

У гэты дзень пачалася трэцяя хваля высылкі з тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая годам раней увайшла ў склад БССР.

Гэтым разам высыльцы ў Сібір або Казахстан падлягалі асобы, якія з тых ці іншых прычынаў уцяклі з нямецкай зоны акупацыі. Агулам было выслана 23 тысячы чалавек.

Першая хваля высылак была праведзена яшчэ ў лютым, калі 50 тысяч чалавек, найперш асаднікаў і членаў іх сем'яў, а таксама работнікаў лясной аховы адправілі ў Сібір і Казахстан.

У час другой хвалі, якая адбывалася ў красавіку, высыльцы падлягалі асобы, якія абвінавачваліся ў адданасці польскаму ўраду і падрыхтоўцы ваенных дзеянняў супраць савецкай улады.

Рэпрэсіі закранулі ў першую чаргу ўсіх тых, хто меў «класава варожае» паходжанне.

**30 чэрвеня**

**1792. Завершыўся Чатырохгадовы Сойм**

У гэты дзень канчаткова завершыўся вальны сойм Рэчы Паспалітай, які адбываўся ў Варшаве з 6 кастрычніка 1788 года па 31 траўня 1792 і самараспусціўся праз вайну з Расіяй.

Пасля першага падзелу ў 1772 годзе Рэч Паспалітая знаходзілася пад моцным ціскам суседніх манархій, у першую чаргу расійскай. Краіне патрабавалася правядзенне радыкальных пераўтварэнняў, якія маглі б змяніць патавую сітуацыю. Чатырохгадовы Сойм стварыў перадумовы для выхаду з крызісу і эфектыўнага развіцця дзяржавы.

Былі зменены асновы дзяржаўнага ладу, да ўдзелу ў кіраванні дапускаліся мяшчане, ухвалялася вайсковая рэформа. Радыкальнасць і прагрэсіўнасць крокаў рэфарматараў патрабавала значных ахвяр. І гэтымі ахвярамі сталі старыя парадкі і традыцыі.

А 3 траўня 1791 года была прынятая Канстытуцыя, якая была першай канстытуцыяй у сучасным разуменні ў Еўропе і другой у свеце. У яе аснове ляжыць амерыканская Канстытуцыя 1787 года, а таксама Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна 1789 года, якая была прынятая ў час Вялікай французскай рэвалюцыі. Дакумент прасякнуты ідэямі еўрапейскага Асветніцтва.

Нягледзячы на пазітыўныя зрухі, разам з тым Чатырохгадовы сойм прымусіў суседнія манархіі паспяшацца з падзелам і ліквідацыяй Рэчы Паспалітай.

*(скарочана)*

**К. К.**
**budzma. org**



ПАМЯЦЬ

## ПАМЯЦЬ ЖЫВЕ ПРАЗ СУМЕСНАЕ МЕРАПРЫЕМСТВА

**Прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў Шумілінскага і Бешанковіцкага раёнаў 22 чэрвеня правялі сумеснае мерапрыемства ў памятнага знака, устаноўленага ў гонар байцоў і камандзіраў 186-й стралковай дывізіі на граніцы двух гэтых раёнаў.**

У рамках сустрэчы прайшла працоўная акцыя па ўладкаванні дарожкі з камянёў да брацкай магілы ахвяр вайны — вязняў Бешанковіцкага гета. Літаратурна-музычная кампазіцыя "Памяць жывая" нібы вярнула прысутных у тыя суровыя падзеі: у лясной цішы трагічнай нотай гучалі вершы і песні.

У поўнае бязмоўе пагрузілася ўсё навокал, калі аб'явілі хвіліну маўчання. Апоўдні, у памяць аб тых, хто не вярнуўся з бою, загінуў ад голаду і нягод, закатаваны ў фашысцкай няволі, палалі агні ў лампадках, і толькі манатонны стук метранома адлічваў секунды.

Намеснік старшыні па сацыяльных пытаннях Шумілінскага райвыканкама Ірына Шалахава адзначыла, што ў гэтым знакавым месцы сабраліся тыя, для каго памяць – не пустое слова.

– Сучасная моладзь павінна ведаць, якім высокім коштам дасталася перамога нашым продкам, каб не дапусціць памылак у будучыні, – падкрэсліла Ірына Шалахава. – Кожнаму з нас трэба шанаваць мірнае неба над галавой, якое дасталася ў спадчыну ад герояў вайны гадоў. Наш святы абавязак – зберагчы мір і спакой для будучых пакаленняў.

Старшыня Шумілінскага райсавета дэпутатаў Мікалай Будневіч выказаў спадзяванне, што падобныя сустрэчы стануць традыцыйнымі.

– Мы сабраліся тут, каб узгадаць тых, хто гераічна абараняў радзіму ў 1941-м і на працягу чатырох гадоў вызваляў нашы землі ад ворагаў, – сказаў Мікалай Будневіч.

– Як сказаў Роберт Раждзественскі: «Пакуль сэрцы стукаюцца, – памятайце! Якою цаной заваявана шчасце, – калі ласка, памятайце! Мы ведаем і памятаем, якую дарагую цану заплацілі дзяды і прадзеды за нашу светлую будучыню.

*(скарочана)*

**vitvesti.by**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

АДПАЧЫНАК

# КОЛЬКІ ГАДОЎ ШУМІЛІНУ?

**Устаноўлена дата першага дакументальнага існавання паселішча.**

Цікава ведаць дзень нараджэння свайго населенага пункта. Прыемна пахваліцца, што жывеш у паселішчы, часы заснавання якога губляюцца ў глыбіні стагоддзяў, а калі яшчэ і заснавальнік — вядомая асоба... Пра гэта складаюцца легенды.

Вось і пра заснаванне Шуміліна мясцовыя краязнаўцы прыдумалі прыгожае паданне, як «у 1812 годзе ў бары, які рос на месцы будучага райцэнтра, шумеў жорсткі бой французскіх і рускіх войскаў, і назвалі той бор Шумны, а калі з'явілася вёска, яна атрымала назву Шуміліна». Гэта паданне вызначае ўзрост Шуміліна ў дзве сотні гадоў. Але гісторыкам падавай факты ды дакументы.

**Крыху гісторыі**

Тэрыторыя сённяшняга Шумілінскага раёна з IX стагоддзя ўваходзіла ў межы Полацкага княства. У пачатку XII стагоддзя князь Усяслаў Чарадзей падзяліў княства паміж сынамі на ўдзелы, і шумілінскія землі былі падзелены паміж Віцебскім і Полацкім княствамі. Гэтая мяжа захоўвалася на працягу многіх стагоддзяў. У часы Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай тэрыторыя сённяшняга Шумілінскага раёна дзялілася паміж Віцебскім і Полацкім ваяводствамі. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай і далучэння да Расійскай імперыі ў 1772 годзе тэрыторыя раёна была падзелена паміж Полацкім (заходняя частка раёна), Віцебскім (усходняя частка) і Гарадоцкім (паўночная частка) паветамі. І вёска Шуміліна знаходзілася ў Полацкім павеце на мяжы з Віцебскім.

**Крыніцы інфармацыі**

Існуючы каштоўныя дакументы – планы Генеральнага межавання, з якіх можна атрымаць шмат цікавай інфармацыі. Генеральнае межаванне праводзілася ў Расіі з 1765 года і да канца XIX стагоддзя з мэтай устанаўлення дакладных граніц паміж землямі ўладаннямі. Матэрыялы Генеральнага межавання – гэта дакладная карта з межамі зямельных участкаў, якія належаць розным уласнікам, а таксама эканамічныя апісанні з указаннем населеных пунктаў, колькасці жыхароў, плошчаў і іншай інфармацыі.

У Полацкім намесніцтве (пазней Віцебская губерня) генеральнае межаванне праводзілася ў 1780-1790 гады.

У «Алфавіце Віцебскай губерні Полацкага павета» (спіс зямельных участкаў) запісана, што 15 кастрычніка 1785 года памочнік землямера Багамазаў



*Запіс пра вёску Каравайніцу з Алфавіта Полацкага уезда*

зрабіў межаванне і апісаў дачу (так у Генеральным межаванні называюцца асобныя зямельныя ўладанні) пад нумарам 91 на Генеральным плане Полацкага павета: «Коровайнеца и Ставры, сельцы с деревнями, бригадира* и Полоцкаго комменданта Отто Петрова сына фон Гандрынга». Ва ўладанні налічвалася па рэвізіі** 233 чалавекі мужскога полу, зямлі прыдатнай 2020 дзесяцін***, няўдобіц 132 дзесяціны 1474 сажняў (квадратных), усяго 2152 дзесяціны 1474 сажні. На тэрыторыі месціцца 2 сяльца – Каравайніцы і Стаўры і 11 вёсак – Каравайніцы, Точыная?, Голодніца, Красной Луг, Папова, Латыршчына?, Гайдамакі, Шуміліна, Бакачы, Стаўры, Мордва.

На плане Полацкага павета, які быў зроблены ў 1785 годзе, на самай мяжы з Віцебскім паветам абазначана маленькая вёсачка Шуміліна (1-3 двары), побач – вёскі Бакачы, Гайдамакі. Дарэчы, на тэрыторыі маёнтка вылучаюцца некалькі аднайменных назваў: сяльцо і вёска Каравайніцы, сяльцо і вёска Стаўры. У адрозненні ад сяла – буйнога паселішча з храмам, сяльцо – паселішча з дваром землеўласніка, вёска – сялянскае паселішча. Можна меркаваць, што цэнтрам маёнтка было сяльцо Каравайніцы, а ў Стаўрах знаходзіўся нейкі памешчыцкі гаспадарчы двор (фальварак).

Цікавая і трансфармацыя назвы Стаўры (пераклад з грэчаскага – крыжы). Ужо на картах XIX стагоддзя яна называецца Крыжы, а зараз у в. Баёўка ёсць вуліца Крыжэўская.

Такім чынам можна лічыць, што першы дакументальны запіс пра сучасны гарадскі пасёлак Шуміліна датуецца 15 кастрычніка 1785 года. А значыць Шуміліну сёлета споўніцца 237 гадоў, пацверджаных дакументальна. Зразумела, што ўзнікла вёска Шуміліна раней за гэтую дату, мяркую, што яшчэ гадоў 50-100 дадасца. Але далейшыя пошукі трэба весці ў польскіх і літоўскіх гістарычных архівах у дакументах Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага.

**Што тычыцца назвы**

Што тычыцца назвы населенага пункта, то тапанімісты схіляюцца да яе паходжання ад асабістага прозвішча Шуміла – верагодна, селяніна, які атрымаў ад памешчыка ў карыстанне зямлю і заснаваў вёску. Тым больш, што гэтае прозвішча сустракаецца ў нашай мясцовасці.

**Сяргей Ермалаеў**

**Брыгадзір – вайсковае званне вышэй за палкоўніка, ніжэй за генерал-маёра, у рускай арміі існавала ў перыяд 1722 – 1796 гг., ваенны чын 5 класа.*

***Рэвізія – перапіс насельніцтва, пры якім улічваліся толькі мужчыны, як плацельшчыкі падушнага падатку. Усяго з 1719 да 1857 года ў Расіі было праведзена 10 рэвізій. На тэрыторыях былой Рэчы Паспалітай, далучаных да Расійскай імперыі, першая рэвізія прайшла ў 1782 годзе.*

****Дзесяціна – старая адзінка зямельнай плошчы, выкарыстоўвалася некалькі розных памераў дзесяціны. У 1753 годзе для мэт зямельнага межавання была зацверджана казённая дзесяціна памерам 2400 квадратных сажняў (1,0925 га).*

**shumilino.by**

КРЫМІНАЛ

# З НАЖОМ І СЯКЕРАЙ

**У вёсцы Красамай адзін мужчына кідаўся з нажом і сякерай на сына.**

Ад жыхаркі сталага ўзросту з Красамая ў Шумілінскі райаддзел міліцыі паступіла паведамленне пра тое, што яе муж кідаецца з нажом і сякерай на сына.

У ходзе разбору здарэння – усе факты пацвердзіліся. Як высветлілася, ліхадзей з'яўляецца грамадзянінам Расейскай Федэрацыі.

Па дадзенай справе праводзіцца праверка.

# КРАДЗЯЖЫ МАЁМАСЦІ

**На днях у Шумілінскім раёне адбыліся крадзяжы з двара ў Обалі і дачнага доміка ва Улазавічах.**

З той нагоды, што падворак каля дома абрабавалі, у раённы аддзел унутраных спраў звярнуўся жыхар горпасёлка Обаль.

Мужчына распавёў работнікам міліцыі, што з двара яго дома прапалі дыскі ад трактара МТЗ-82, гантэлі, металічны трос і асабістыя рэчы гаспадара.

Нанесеная невядомымі злодзеямі шкода была ацэнена на 150 беларускіх рублёў. На сённяшні дзень па дадзеным факце ўзбуджана крымінальная справа, а злачынца вышукваецца.

У хаце віцябляніна, які трымае дачны дом у вёсцы Улазавічы, таксама наведаліся злодзеі. На гэты раз прапалі прадукты харчавання і асабістыя рэчы гаспадара. Праўда і тое, што ў гэтым выпадку супрацоўнікам крымінальнага вышуку РАУС сумесна з участковымі інспектарамі ўдалося раскрыць злачынства "па гарачых слядах". Як высветлілася ў ходзе вышуку – у чужы дом прабраўся раней судзімы мясцовы жыхар В., які нядаўна вызваліўся з месцаў пазбаўлення волі. Аднак і на волі ён пагуляў нядоўга – усяго толькі тры дні, а затым і здзейсніў чарговы крадзеж.

Супраць мужчыны была ўзбуджана крымінальная справа. Зараз гэтаму ліхадзею пагражае пазбаўленне волі да чатырох гадоў.

# ПАТАНУЎ МУЖЧЫНА

**Апоўдні ў суботу 11 чэрвеня ў возеры Будавесць, што каля аграгарадку Амбросавічы – без прыкмет жыцця быў знойдзены мясцовы жыхар 1973 года нараджэння.**

Як высветлілася па папярэдніх дадзеных, смерць наступіла з-за сардэчнай недастатковасці ці ўтаплення. Канчатковы дыягназ установяць судмедэксперты. Трагічны выпадак здарыўся падчас рыбнай лоўлі. Паводле старшыні раённай арганізацыі Таварыства ратавання на водах Аляксандра Шарафутдзінава маецца аналагічны выпадак, які адбыўся ў Язвіне на возеры Мурожніцкае на Тройцу.

З наступленнем лета ратавальнікі цяпер працуюць ва ўзмоцненым рэжыме. Па словах А. Шарафутдзінава, за мінулы тыдзень была арганізавана акцыя «Летні патруль» з удзелам службы ратавання на вадзе і супрацоўнікаў РАНС у аграгарадку Башні на возеры Будавесць і ў райцэнтры на Шумілінскім возеры.

Прафілактычныя гутаркі па правілах бяспечнага купання і адпачынку ля вады праведзены з 11 непаўналетнімі.

Устаноўлены правілы бяспечнага купання:

– месца для купання павінна быць абсталявана;

– ніколі не скокайце, не ныравайце ў ваду з мостаў і іншых высокіх месцаў;

– дзецям у ваду трэба заходзіць разам з дарослымі;

– не свавольнічайце ў вадзе;

– не адплывайце далёка ад берага і не заплывайце за буйкі.

Будзьце асцярожныя! Не пакідайце дзяцей без нагляду!

**Сяржук Крупскі**
**па матэрыялах УУС**

ГРАМАДСКАЯ БЯСПЕКА

# КАНІКУЛЫ БЕЗ ДЫМУ І АГНЮ

**З 6 чэрвеня ў Шумілінскім раёне распачалася штогадовая рэспубліканская прафілактычная акцыя МНС «Канікулы без дыму і агню». Мерапрыемства будзе адбывацца пераважна ў прышкольных і летніх аздараўленчых лагерах, а таксама ва ўстановах дашкольнай адукацыі.**

Прынамсі, летнія канікулы – гэта найбольш шчаслівая і самая доўгачаканая пара для ўсіх нашым школьнікаў. Аднак разам з тым і ў гэты перыяд колькасць пажараў і іншых надзвычайных сітуацый з удзелам непаўналетніх падвышаецца. Менавіта ў гэты сезон малыя дзеткі нярэдка застаюцца без нагляду дарослых. Паводле інспектара райаддзела па надзвычайных сітуацыях Вадзіма Піваварава, работа мясцовых ратавальнікаў будзе накіравана на тое, каб папярэдзіць надзвычайныя сітуацыі па прычыне дзіцячага свавольства з агнём, а таксама гібель дзяцей на вадаёмах. За гэты час тут наладзяць прафілактычныя гутаркі з дзецьмі, правядуць дэманстрацыю тэматычных і навучальных відэафільмаў, мультфільмаў, віктарыны па асновах бяспечнай жыццядзейнасці, конкурсныя праграмы.

Да таго ж памятаючы пра тое, што за бяспеку дзяцей заўсёды адказваюць дарослыя, работнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях правядуць трэніроўку для дзяжурнага персаналу, выхавальнікаў і калектываў устаноў.

Прычым да правядзення акцыі таксама будуць далучаны актывісты раённага аддзялення Беларускай маладзёжнай грамадскай арганізацыі ратавальнікаў-пажарных, таварыства ратавання на водах і іншыя зацікаўленыя арганізацыі.

Варта напомніць паважаным бацькам: калі ласка, паклапаціцеся пра сваіх дзяцей – арганізуйце іх вольны час, вучыце іх правілам бяспечных паводзін. Не забывайце, што за шчаслівае дзяцінства менавіта вы ў першую чаргу нясеце за гэта адказнасць перад грамадствам.

**М. Амбросаў**

НАША СПАДЧЫНА

# НЕПАХІСНЫ У СВАІХ ПРЫНЦЫПАХ, РЭАЛІСТ-ТРАГІК, ПАЧЫНАЛЬНІК АКОПНАЙ ПРАЎДЫ ПРА ВАЙНУ

**19 чэрвеня 98-ы дзень народзінаў Васіля Быкава. «Народная воля» працягвае публікаваць фрагменты з кнігі «250 асоб з Беларусі ў дыялогах культур». Аповед пойдзе пра адну з самых буйных постацяў у беларускай літаратуры другой паловы ХХ стагоддзя, народнага пісьменніка Беларусі — Васіля Быкава.**




Васіль Быкаў — пісьменнік, народны пісьменнік Беларусі (1980), Герой Сацыялістычнай Працы (1984), лаўрэат Ленінскай прэміі (1986).

Строгі, нават жорсткі рэаліст-трагік. Схіляўся і да мадэрнізму. Майстар ваеннай аповесці, у якой на лакальным матэрыяле глыбока раскрываў сутнасць чалавека. Пачынальнік гэтак званай акопнай праўды пра Вялікую Айчынную вайну. Аднак заставаўся непахісным у сваіх гуманістычных і дэмакратычных прынцыпах. Прайшоў усю сваю творчую дарогу мужна, не паддаючыся ідэалагічнаму ціску савецкай сістэмы, вырасшы ў сімвал сумлення нацыі, яе найвышэйшы аўтарытэт.

Дарога жыцця В.Быкава пачыналася ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці ў беднай сялянскай сям'і. У 1939 годзе паступіў у Віцебскае мастацкае вучылішча, але быў вымушаны пакінуць гэтую навучальную ўстанову і стаў вучыцца ў школе будаўнікоў. Затым — вайна, праца на абарончых земляных аб'ектах, адступленне, прызыў у войска, вучоба ў Саратаўскім ваенным вучылішчы (1942–1943). Пасля — фронт. Ваяваў у пяхоце, артылерыі, пераважна на перадавой. Двойчы быў паранены. Зведаў у поўнай меры цану чалавечага жыцця ва ўмовах тагачаснай франтавой рэчаіснасці.

Дэмабілізаваўся ў 1947 годзе і прыехаў у Гродна, дзе працаваў мастаком, а пасля журналістам рэдакцыі газеты «Гродзенская праўда». У 1949–1955 гадах служыў у войску. Жывучы ў Гродне, В.Быкаў шмат друкаваўся. Кожная яго аповесць станавілася падзеяй, пашырала кола яго чытачоў, прыцягвала ўвагу кінематографа і сцэны. У кожным са сваіх твораў пісьменнік ставіў героя перад тварам смерці і прымушаў рабіць свой выбар, правяраў яго на чалавечую годнасць. Раскрываліся ў творах і агульначалавечыя думкі пра жыццё і яго страшны фінал, пра маладосць, каханне, адвечную красу прыроды, пра магчымасць духоўнага патэнцыялу чалавека, пра дабрату і жорсткасць, высакароднасць і шкурніцтва. Гэта ў аповесцях «Жураўліны крык» (1960), «Здрада» (1961), «Трэцяя ракаета (1962), «Пастка» (1962), «Альпійская балада» (1964), «Мёртвым не баліць» (1965), «Праклятая вышыня» (1968), «Круглянскі мост» (1969), «Сотнікаў» (1970), «Абеліск» (1971), «Дажыць да світанку» (1973), «Воўчая зграя» (1974), «Яго батальён» (1975), «Пайсці і не вярнуцца» (1978). Кожны з твораў непаўторны і зместам, і стылёвымі адценнямі. Але ў кожным герой праходзіць праз пакутна-трагічныя нягоды і страты, выяўляючы такім чынам свой унутраны воблік.

Жывучы ў Гродне, пісьменнік шмат ездзіў па СССР, краінах Захаду. Пашыралася кола яго аднадумцаў і прыхільнікаў сярод калег і чытачоў. У Гродне Быкаў узначаліў абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 1978 годзе пераехаў у Мінск, дзе выйшлі аповесці «Знак бяды» (1984) «Кар'ер» (1986), «У тумане» (1987), «Аблава» (1989), у 1990-я гады — «Сцюжа», «Воўчая яма», «Балота», «Пакахай мяне, салдацік», якія замацавалі сусветны аўтарытэт мастака-гуманіста.

Напрыканцы 1990-х гадоў ён пакінуў радзіму і выехаў на Захад. Жыў у Фінляндыі, Германіі, Чэхіі.

Кнігі апошняга перыяду жыцця пісьменніка: зборнік «Сьцяна» (1997), «Пахаджэньне. Прыпавесьці» (1999) — вызначаюцца глыбокім трагізмам успрымання жыцця. Апошняя прыжыццёвая кніга В.Быкава «Доўгая дарога дадому» (2002) — мемуары. Яны цікавыя не толькі фактамі, але і іх асэнсаваннем, ацэнкамі, зробленымі з вышыні пражытых гадоў. Перад намі — эпапея чалавечага лёсу на крутых паваротах ХХ стагоддзя. В.Быкаў даў сваімі ўспамінамі вельмі важныя ўрокі жыцця. У канцы кнігі — нават своеасаблівы маральна-патрыятычны запавет, звернуты да сучаснікаў і нашчадкаў. Гэта нібы завяршэнне яго багатай публіцыстыкі.

Цяжка захварэўшы, В.Быкаў пакінуў Чэхію і прыехаў у Мінск, каб апошні раз дакрануцца да роднай зямлі.

Спадчына выдатнага беларускага пісьменніка выдадзена ў 1980–1982 гадах у 4 тамах, і ў 1992–1994 гадах — у 6 тамах. Яго творы перакладзены на 35 моў свету.

Памёр і пахаваны ў Мінску.

**«Народная Воля»**

РОДНАЯ МОВА

# «БЕЛАРУСЬ БЫЛА МОЦНАЙ КРАІНАЙ ТОЛЬКІ ТАДЫ, КАЛІ З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ УСЁ БЫЛО ДОБРА»

**Юрыст і «моўны інспектар» Ігар Случак на падставе сваёй дысертацыі падрыхтаваў кнігу «10 стагоддзяў дзяржаўнасці і дыскрымінацыі беларускай мовы». Аўтар распавёў «Новаму Часу» пра тое, якая сувязь паміж мовай і дабрабытам краіны, а таксама як можна атрымаць выданне.**

**— Распавядзіце, як утварылася кніга і чаму менавіта цяпер прыйшоў для яе час?**

— Ужо больш за 10 год я займаюся абаронай моўных правоў. Я шмат перапісваюся з чыноўнікамі, вытворцамі, спартовымі клубамі, рознымі арганізацыямі і іншымі ўстановамі — у мяне ёсць унікальны архіў доказаў недасканаласці моўнага заканадаўства. Я вывучыў усю магчымую літаратуру пра беларускую мову, пісаў дысертацыю і дыпломную работу пра моўную палітыку ў Беларусі, распрацоўваў змены ў заканадаўства.

На падставе свайго досведу і ведаў пра моўную палітыку я даўно хацеў выдаць такую кнігу, але, калі жывеш у Беларусі і робіш для яе нешта карыснае, нічога немагчыма сплանаваць. Бо сёння ты ў адным месцы, а заўтра ўжо вымушаны збіраць Стэфана (сына Ігара Случака і Аліны Нагорная. — НЧ), котку, рэчы і шукаць новае жытло, новыя кампутары. Таму ідэя з кнігай усё адкладалася і адкладалася.

А цяпер мы з Алінай распачалі «Акадэмію Ў» — курсы па абароне моўных правоў, і я зразумеў, што для паўнавартаснага навучання трэба падручнікі. І гэтыя веды важныя не толькі для нашых студэнтаў, але і для ўсіх, хто хоча, каб Беларусь была незалежнай, прававой і дэмакратычнай краінай.

**— Назва кнігі вельмі інтрыгоўная і абяцае шмат цікавых гістарычных прыкладаў як панавання, так і дыскрымінацыі беларускай мовы цягам 10 стагоддзяў нашай гісторыі. Ці можаце прывесці некалькі з іх, каб даць уяўленне будучым чытачам, што іх чакае?**

— Як прыклад панавання можна прывесці той факт, што каралі польскія карысталіся беларускай мовай, бо ў той час, калі беларуская мова ўжо была мовай прававых актаў, польская пісьмовая мова яшчэ была недастаткова развітая. Таксама ў якасці добрага прыкладу можна ўзгадаць, што мовай дыпламатычных зносін з заходнім светам была лацінская, а з усходнім — беларуская.

Як прыклад дыскрымінацыі можна прывесці той факт, што з 1697 года на беларускай мове забаранілі выдаваць новыя прававыя акты, або тое, што канстытуцыя 3 траўня 1791 года была выдадзена толькі па-польску. Або тое, што сёння заканадаўства ў 98,5% выпадкаў выдаецца на рускай мове.

**— Даследаваўшы ажно 10 стагоддзяў існавання беларускай мовы, маглі б вы падзяліцца нейкімі найбольш важнымі высновамі?**

— Беларусь была моцнай краінай толькі тады, калі з беларускай мовай усё было добра. Менавіта таму нядобразычліўцы мэтанакіравана стагоддзямі знішчалі нашую мову, каб Беларусь не была самастойнай, а беларусы сталі «лялькамі» чужых інтарэсаў.

У 10 стагоддзі нарадзілася беларуская дзяржаўнасць у выглядзе Полацкага княства — да гэтага палітычнай арганізацыі не было, было толькі кіраванне плямёнамі. І калі з'явілася дзяржава, то з'явілася падства і разважаць пра дзяржаўную мову. І хоць напачатку палітычныя эліты карысталіся сваёй роднай скандынаўскай мовай, але пасля цалкам перайшлі на беларускую.

**— Дык чаго ж у гісторыі беларускай мовы было больш — дзяржаўнасці ці дыскрымінацыі? Ці дае кніга адказы на пытанні пра прычыны гэтага?**

— Цяпер можна казаць, што гісторыя падзялілася на два роўныя адрэзкі — да 15 ст. было больш дзяржаўнасці, пасля пачалася моўная дыскрымінацыя і, адпаведна, заняпад беларускай дзяржаўнасці. Таму калі мы хочам бачыць Беларусь сапраўды незалежнай і моцнай дзяржавай, гісторыя кажа нам аб тым, што беларуская мова павінна быць адзінай дзяржаўнай у краіне.

**— Нядаўна выйшла кніга Аліны Нагорнай «Мова 404» пра дыскрымінацыю беларускай мовы. Ці не будзе паўтарэнняў у вашай кнізе?**

— Кніга Аліны — рэальныя гісторыі людзей, што размаўляюць па-беларуску ў Беларусі. Жывыя прыклады дыскрымінацыі. У маёй кнізе — факты, падзеі, юрыдычныя моманты. Але і прыклады з кнігі Аліны таксама ёсць, бо яны цудоўна ілюструюць недасканаласці сённяшняга моўнага заканадаўства.

**— Як можна падтрымаць выданне і атрымаць кнігу?**

— Трэба паставіць плюсік тут, а мы звяжамся з вамі праз некаторы час.

**Яўгенія Бурштын**
**novychas.online**

РАСІЯ

# МЫ ПОЛАГАЛИ, ЧТО ВЫ ОТСТАЛИ ЛЕТ НА 10-15. ОКАЗАЛОСЬ — НАВСЕГДА!

**С вице-премьером РФ Юрием Борисовым не поспоришь, и потому «глупо говорить, что в России существует серийное микроэлектронное производство». «Современная цивилизация — это цивилизация постоянного ускорения. Оно ощущается повсюду — не только в скорости появления новых идей, но и в технологиях, в экономике, в торговле, в образовании, в средствах массовой информации, в политике, даже в повседневном быте людей».**



Золотые слова, и произнесены они были с самой высокой трибуны страны в 2013 г.!

Разумеется, автор золотых слов не претендовал на лавры первооткрывателя. Постоянное ускорение — отличительная черта Нового времени, хронологию которого специалисты ведут с открытия Колумбом Америки.

В наши дни ускорение в сфере новых технологий проявляется, в частности, в эмпирическом наблюдении соучредителя корпорации Intel Гордона Мура, согласно которому количество транзисторов, размещаемых на кристалле интегральной схемы, удваивается каждые два года.

Богу Богово, а Муру мурово. Для корпорации Intel и для всех ее транснациональных товарищей по несчастью у нас есть свой, в национальные цвета раскрашенный ответ. В афористичной форме он был вербализован еще в 2016 г.:

«Инновации, IT-технологии, приватизации и прочее. Все это понятно. Мы уже это освоили. Но все, и наша жизнь — в простом. Надо раздеваться и работать. До седьмого пота. Не будет этого — погибнем».

**Основной вывод мозгового штурма**

Прошло шесть лет. Мы живы. Однако «спецоперация», точнее реакция объединенного Запада на «спецоперацию», внесла серьезные коррективы в простую и отлаженную формулу выживания. Она понятна каждому, кто в детстве читал романы Фенимора Купера и Майн Рида. Читателям, с книгами классиков приключенческого жанра XIX века незнакомыми, поясню, что в основе ее — бартер природного сырья на промышленные изделия.

На дворе, если кто запамятовал, пятый технологический уклад, список ядерных характеристик которого возглавляет электронная промышленность. Поэтому придание нового импульса развитию отечественной микроэлектроники актуально как никогда. О нем и шла речь 14 июня на совещании во Дворце Независимости.

Основной вывод мозгового штурма передает следующая цитата:

«...ракеты должны летать в космос, ракеты оборонные, ПВО, земля-земля и так далее, подлодки и ядерные боеголовки должны летать. Никто под это не даст то, что ты производишь. Сейчас актуальнейшая тема: сможем ли мы всем своим комплексом предприятий, которые у нас есть (микроэлектронных предприятий), обеспечить наши потребности — России и Беларуси. Деньги на это есть».

До начала «спецоперации», а если точнее, до «Крымнаш», наличие денег на просторах Союзного государства гарантировало решение проблем любой сложности. А что мы имеем сегодня?

На совещании было упомянуто всуе имя ответственного за российский ВПК, вице-премьера Юрия Борисова. Ему и слово:

«Глупо говорить, что в России существует серийное микроэлектронное производство. Мы даже отсутствуем в мировой статистике».

Слово это не было обронено впопыхах, а прозвучало в декабре 2019 г. с трибуны конференции «Электроника в России: будущее отрасли».

За неполных три года оптимизма у вице-премьера не прибавилось. 13 июня в интервью РБК ТВ он подчеркнул, что в последнее десятилетие в России не развивалось электронное машиностроение, средства производства электроники в стране не создавались, а закупались за рубежом.

«С 1990-х годов мы практически потеряли компетенции в этой области. И сегодня будем их восстанавливать».

Интересно, сколько лет уйдет на восстановление компетенций 90-х, и кому сегодня нужны компетенции тридцатилетней давности? Между тем закон Мура никто не отменял. Последовательное удвоение количества транзисторов каждые два года на единице площади кремниевых кристаллов означает непрерывное совершенствование оборудования.

До начала «спецоперации» заказы на производство серверных процессоров собственной разработки Baikal-S Россия размещала на тайваньской TSMC. Увы, такой уровень кооперации остался в прошлом.

Перспективы обсуждения нового уровне кооперации экс-президент России Дмитрий Медведев четко обозначил в своем июньском манифесте: «Я их ненавижу. Они ублюдки и выродки. Они хотят смерти нам, России. И пока я жив, я буду делать все, чтобы они исчезли».

Тем не менее, вера в «наши разработки», способные удивлять и отрезвлять любителей вынашивать агрессивные планы в отношении Союзного государства, непоколебима. С этим сложно не согласиться. Как тут не вспомнить анекдот о реакции руководителя японской делегации на увиденное на одном из флагманов советской микроэлектроники в конце 80-х: «Мы полагали, что вы отстали лет на 10-15. А вы отстали навсегда!»

**Сергей Николюк**
**www.sn-plus.com**

САЦЫЯЛЬНАЯ ПАДТРЫМКА

# «ТУНЕЯДЦЕВ» МЫ НАЙТИ МОЖЕМ, А НУЖДАЮЩИХСЯ В ПОМОЩИ — ПОЧЕМУ-ТО НЕТ

**Академический директор BEROC Катерина Борнукова — о том, какой должна быть социальная поддержка белорусов в условиях санкций и роста цен. Власти подготовили законопроект по социальной поддержке населения, его внесли на рассмотрение депутатам. В частности, чиновники хотят разрешить правительству устанавливать единовременные выплаты отдельным категориям граждан.**

**— В начале апреля правительство Беларуси приняло план поддержки экономики, в котором, в частности, есть такая мера: организации смогут получать субсидии из ФСЗН для доплат работникам, а также государственной соцпомощи на ежемесячное соцпособие. Насколько, по-вашему, это эффективно?**

— Это такая мера, которая выступает своеобразным заменителем пособий по бедности и безработице. Такой мерой нанимателей стимулируют, чтобы они не увольняли работников, продолжали их держать на рабочих местах, и ФСЗН будет субсидировать часть зарплат, часть выплат этим работникам. Это в каком-то плане костыль, потому что это не очень прозрачная схема. Пособие по безработице или по бедности понятно как работает, а как работает этот механизм, каким образом это получить к нему доступ, в общем-то не очень ясно.

Похожие механизмы вводились во время ковида, и мы не знаем ни одного кейса, когда такой субсидией могли бы воспользоваться частные фирмы, то есть формально ограничения нет, но из-за неясности механизма, каким образом надо доказывать, что именно твоему предприятию нужны эти субсидии, вероятность того, что частный сектор или его работники смогут получать эти субсидии из ФСЗН, очень мала.

Это несправедливый подход, потому что у нас половина рабочей силы занята в частном секторе, они такие же граждане Беларуси, как и сотрудники госпредприятий, которые с большей вероятностью получат поддержку, чем сотрудники частных компаний.

В ближайшее время экономику ждет структурная трансформация. Это означает, что одни компании будут вынуждены закрыться, другие откроются. Искусственные программы по поддержке занятости хорошо отработаны в ковид, когда надо было, например, переждать пару месяцев и потом все более-менее налаживалось. Действительно, имеет смысл в эти пару месяцев людей не увольнять.

Когда мы говорим о долгосрочной структурной трансформации, то, конечно, надо людям давать социальную поддержку первое время, но она не должна быть в виде поддержания занятости.

То есть сегодня лучше, чтобы работники «Беларуськалия», которые простаивают, искали новую занятость на предприятии, которое работает, например, на импортозамещении, чем просто сидели и получали небольшое пособие от государства.

Это пособие, конечно, должно быть первое время. Но надо мотивировать людей переходить на новые рабочие места, чтобы структурная трансформация проходила быстрее.

**— Как вы считаете, какие меры следовало бы принять властям для того, чтобы поддержать население?**

— Часть того, что делается, постоянная индексация пенсий и пособий, это очень важно, потому что пенсии для большинства пожилых людей — это единственный источник дохода. Надо очень внимательно следить за тем, чтобы пенсия соответствовала критериям бюджета прожиточного минимума.

Второй момент — расширение существующей адресной социальной помощи, чтобы люди знали о ней и могли легко ее получить, а не надо было собирать множество бумаг. Возможно, давать ее по выявительному принципу. «Тунеядцев» мы найти можем, а нуждающихся в адресной социальной помощи — почему-то нет.

Учитывая те процессы, которые грядут на рынке труда, трансформации и перестройки, обязательно нужно иметь пособие по безработице, которое позволило бы человеку после увольнения какое-то время поддерживать свой прежний уровень жизни и спокойно заниматься поиском новой работы.

Не надо изобретать велосипед. Есть хорошо работающие рынки труда, например, в Германии, который с одной стороны имеет высокий уровень социальной защиты, с другой — не приводит к искажениям, к тому, что люди не хотят искать работу.

В идеале первые месяц-два пособие по безработице должно быть привязано к зарплате работника. Пусть это будет не сто процентов, а 60-80. А после человека переводят на пособие по бедности, которое позволяет его семье получать минимальную поддержку, чтобы функционировать. Таким образом не будет создаваться негативных стимулов на рынке труда. Если платим хорошее пособие пару месяцев, вы будете заинтересованы найти работу как можно скорее, а не сидеть на пособии годами.

*(скарочана)*

**Яна Соколова**
**gazetaby.info**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы. E-mail: alex81852@gmail.com
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 29.06.2022 у 18.18**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.